









**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

19 студзеня 2000 года
Цана 60 рублёў

№ 3 (2665)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

**ПЕРШЫНЕЦ 2000-га**



БелТА.

**Саша Герман — першае дзіця, якое нарадзілася ў навагоднюю ноч 2000 года ў Мінску. Нядаўна мэр горада Уладзімір Ярмошын уручыў бацькам дзяўчынкі Артуру і Вользе Герман ключы ад двухпакаёвай кватэры. Маленькая Сашанька будзе жыць у мікрараёне Сухарава-3.**

**НА ЗДЫМКУ: сям'я ГЕРМАН.**





Мінск калядны. Фота Віктара СТАВЕРА.

**ВІНШУЕМ!**

## Васіль БЫКАЎ — ЛАЎРЭАТ ПРЭМІІ «ТРЫУМФ»

У Вялікім тэатры Расіі адбылася ўрачыстая цырымонія ўручэння расійскай незалежнай прэміі "Трыумф" за 1999 год, якая ўручаецца за вышэйшыя дасягненні ў літаратуры і мастацтве.

У сузор'і імён, прадстаўленых у спісе лаўрэатаў, і беларускі пісьменнік Васіль Быкаў.

Уладальнікі прэміі атрымліваюць Залаты знак, упрыгожаны дыяментам. А ўвесь прэміяльны фонд складае 250 тысяч долараў.

**НА МЯЖЫ ТЫСЯЧАГОДДЗЯЎ**

## КАРАНІ НАЦЫЙ,
### або ПАЧАТАК ФАРМІРАВАННЯ БЕЛАРУСКАГА ЭТНАСУ З ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ АРХЕАЛАГІЧНАЙ НАВУКІ

**Адкуль беларусы! Калі яны з'явіліся? Гэтыя пытанні даўно цікавілі вучоных. Адносна часу і шляхоў фарміравання беларускага этнасу ў гістарычнай навуцы яшчэ і на сённяшні дзень няма адзінай думкі. Пытанне этнагенезу беларусаў заўсёды было прадметам даследаванняў не толькі навукі, але палітыкі і ідэалогіі.**

4—5 стар.

**ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ**

...

**Савет абласнога зямляцтва беларусаў па даручэнню землякоў, якія пражываюць на Вінніччыне, сардэчна віншуе супрацоўнікаў газеты і ўсіх, хто апынуўся за межамі гістарычнай Радзімы, з 2000-м годам і Калядамі!**

**Мы высока цэнім клопат пра нас. Дзякуем за дапамогу і магчымасць ведаць, як і чым жывуць нашы землякі ў іншых краінах.**

**З павагай**
**У. ДЗЯМЕШКА,**
*старшыня Вінніцкага абласнога зямляцтва беларусаў.*
Украіна.

...

**Паважанай рэдакцыі зычу плёну ў творчай і духоўнай працы, каб "Голас Радзімы" апраўдваў сваю назву.**

**Шчыра ўдзячны за падарунак з Бацькаўшчыны — вашу газету.**

**Мікола ПАНФІЛЮК.**
Польшча.

**КОНКУРС**

510-годдзю Францішка Скарыны прысвечаны конкурс, які аб'яўлены Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтрам, што носіць яго імя.

Творчыя спаборніцтвы праводзяцца сярод навучэнцаў і студэнтаў. Вершаваныя, празаічныя, жывапісныя, графічныя і іншыя работы на тэму "Скарына ў маім уяўленні" прымаюцца да 15 мая. Вынікі конкурсу будуць падведзены ў канцы мая, у час трэцяга кангрэса Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

Работы неабходна прысылаць на адрас: **220050, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, ННАЦ імя Францішка Скарыны. Тэл. 220-93-50.**

**ДАБРАЧЫННАСЦЬ**

# *НЯБЕСНЫ ГРУЗ Пола МОАРА*





*Прыём гуманітарнай дапамогі ў аэрапорце "Мінск-2".*

Гуманітарны груз "вагой" чатыры мільёны долараў прыбыў у беларускую сталіцу. Так американская грамадская дабрачынная арганізацыя "СіціХоуп Інтэрнешнл", якую ўзначальвае прападобны Пол Моар, пачала свой дзесяты год працы па аказанню гуманітарнай дапамогі Беларусі. Гэтая пастаўка стала самай буйной з ужо атрыманых рэспублікай.

Што ж цяпер прывёз вядомы амерыканец? Як заўсёды, лекі і медыкаменты, востра неабходныя беларускім бальніцам. Дабрачынны груз фарміравалі 30 фармацэўтычных кампаній ЗША, якія перадалі каштоўныя сардэчныя і гастраэнтэралагічныя прэпараты, антыбіётыкі і супрацьпрастудныя лекі. Усе яны паступяць у абласныя цэнтры рэспублікі. А размяркоўваць дапамогу будуць дзесяць валанцёраў, якія спецыяльна прыбылі з Амерыкі. Яны адправяць сучасныя прэпараты ў кардыялагічныя дыспансеры, дзякуючы чаму 11 тысяч хворых пройдуць спецыяльны курс лячэння.

У цэлым з кастрычніка 1990 года гэтая грамадская арганізацыя сумесна з дзяржДэпартаментам ЗША даставіла ў краіны СНД медыцынскіх грузаў на суму больш за 230 мільёнаў долараў.



Фота Віктара СТАВЕРА.

*Пол МОАР з сынам.*

NEWS FROM BELARUS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BELARUS

ЭКАНОМІКА

# БЮДЖЭТ-2000 ПРЫМАЕЦЦА СА СПАЗНЕННЕМ

***На працягу некалькіх апошніх гадоў беларускі парламент не можа своечасова прыняць Закон "Аб дзяржаўным бюджэце". Не стаў выключэннем і 2000-ны: толькі 4 студзеня, сабраўшыся на нечарговую сесію, Нацыянальны сход адобрыў у першым чытанні праект галоўнага фінансавага плана краіны. Асноўнай прычынай прамаруджвання стала тое, што праект бюджэту з-за складанага фінансава-эканамічнага становішча са спазненнем быў падрыхтаваны ўрадам.***

Разгляд у другім чытанні праекта закона адбыўся 12 студзеня. Ён накіраваны Палатай прадстаўнікоў у Савет Рэспублікі для далейшага адабрэння. І толькі пасля згоды сенатараў апынецца ў Прэзідэнта. Такім чынам, трэба чакаць, што сама мала першы месяц новага года Беларусі прыйдзецца жыць ва ўмовах адсутнасці новага бюджэту і фінансаванне будзе ажыццяўляцца ў памерах, якія прадугледжваў мінулагодні бюджэт.

Верагодна, гэта нязначна паўплывае на айчынную эканоміку, паколькі дакладна вядома, што істотных змяненняў у фінансавай галіне ў адпаведнасці з новым законапраектм не прадугледжваецца. У многім сёлетні бюджэт падобны да мінулагодняга.

Агульны памер расходаў прадугледжаны ў межах 1 611 853 609 тысяч дэнамінаваных рублёў, даходаў — 1 493 958 252 тысячы рублёў. Дэфіцыт бюджэту вызначаны ў памеры 188 мільярдаў рублёў, што складае каля 1,7 працэнта ад валавога ўнутранага прадукту краіны. Як і летась, дэфіцыт бюджэту мяркуецца пакрываць за кошт дзвюх крыніц — эмісіі Нацыянальнага банка краіны (76 мільярдаў рублёў) і продажу каштоўных папер. Пра прыцягненне якіх-небудзь знешніх крыніц у праекце бюджэту не гаворыцца.

Такім чынам, улічваючы складаныя ўзаемаадносіны, і сёлета ўрад не разлічвае на дапамогу міжнародных фінансавых структур. У праекце бюджэту ўказваецца толькі сума, якую Беларусь павінна выплаціць у якасці пагашэння ранейшага доўгу і працэнтаў — 34 мільярды рублёў. Дарэчы, як паведаміў прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, па стану на сённяшні дзень знешні доўг Беларусі складае 900 мільёнаў долараў, прычым, большую частку гэтых грошай наша краіна завінавацілася па расійскіх крэдытах.

Структура праекта бюджэту таксама нязначна адрозніваецца ад мінулагодняй. Па-ранейшаму бюджэт называецца Міністэрствам фінансаў "сацыяльна арыентаваным". Сапраўды, значная частка сродкаў накіравана на забеспячэнне сацыяльнай бяспекі грамадзян. Выплата заработнай платы бюджэтным работнікам, стыпендый і дапамог — першачарговая задача. Усяго ў кансалідаваным бюджэце на 2000 год на ажыццяўленне сацыяльнай палітыкі плануецца выдаткаваць 144,7 мільярда рублёў. Як і летась, вялікая колькасць сродкаў кансалідаванага бюджэту пойдзе на патрэбы сельскай гаспадаркі.

Артыкулы расходаў рэспубліканскага бюджэту дакладна выглядаюць пакуль так: на дзяржаўнае кіраванне і мясцовае самакіраванне плануецца выдаткаваць 41 мільярд рублёў, на міжнародную дзейнасць — 11 мільярдаў, на абарону — 73 мільярды, на праваахоўную дзейнасць і забеспячэнне бяспекі краіны — 127 мільярдаў, на навуку — 36 мільярдаў, на прамысловасць, энергетыку і будаўніцтва — 24 мільярды, на падтрымку сельскай гаспадаркі — 28 мільярдаў, ахову навакольнага асяроддзя — 40 мільярдаў, на адукацыю — 94 мільярды, на культуру — 8 мільярдаў, на сродкі масавай інфармацыі — 14 мільярдаў, на ахову здароўя — 104 мільярды дэнамінаваных рублёў. Захаваецца ў гэтым годзе і спецыяльны фонд Прэзідэнта, памер якога перавысіць 12 мільярдаў рублёў. Паколькі сёлета запланаваны парламенцкія выбары, то ў праекце бюджэту ёсць адпаведны артыкул, у якім запісана каля 4 мільярдаў рублёў. Верагодна, у пэўнай ступені гэтыя лічбы зменяцца, паколькі наперадзе яшчэ абмеркаванне праекта ў другім чытанні. Аднак можна чакаць, што агульная структура бюджэту вызначана.

Звяртае на сябе ўвагу той факт, што сёлета ўрад пайшоў на пэўнае зніжэнне падаткаў. У прыватнасці, паводле слоў міністра фінансаў Мікалая Корбута, памер падатку на прыбытак будзе зменшаны з 30 да 25 працэнтаў. Плануецца змяненне вылічэння падатку на дабаўленую вартасць. Надзвычайны падатак, паводле праекта бюджэту, устаноўлены ў памеры 4 працэнтаў ад фонду заработнай платы прадпрыемстваў.

Выступаючы ў парламенце, міністр фінансаў Мікалай Корбут паведаміў, што ў аснову праекта бюджэту пакладзены Прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2000 год. Згодна з ім, сёлета чакаецца атрыманне валавога ўнутранага прадукту ў памеры 6 915 мільярдаў рублёў і адпаведна рост ВУП у памерах 2—3 працэнты. Пры разліку паказчыкаў праекта бюджэту ўрад карыстаўся прагнозным паказчыкам інфляцыі ў памеры 4,5—5,5 працэнта ў месяц. Аднак вытрымаць гэтыя паказчыкі, відаць, будзе вельмі складана. Бо ў мінулым годзе памер інфляцыі прагназаваўся яшчэ меншым, але пры падвядзенні вынікаў года аказалася, што рэальная інфляцыя склала больш за 10 працэнтаў у месяц.

Згодна з прагнозам, сярэднямесячная заработная плата сёлета чакаецца больш за 47 мільёнаў недэмінаваных рублёў. Абменны курс беларускага рубля ў адносінах да долара ЗША да канца 2000 года, паводле чаканняў урада, павінен скласці 575 тысяч недэмінаваных рублёў. Але і гэтая лічба здаецца абсалютна нерэальнай, бо на сённяшні дзень рынкавы курс наяўнага долара складаў ужо 900 тысяч беларускіх рублёў.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

"СОНЦА ЗОЛАТА — ВЫДАТНЫМ"



Прэмія "Сонца золата — выдатным" Міжнароднай асацыяцыі маркетынгу і якасці прысуджана групе вучоных-гамяльчан з Інстытута лесу Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Гэтай узнагароды лесаводы ўдастоены за комплекс навуковых прац па пераадоленню вынікаў чарнобыльскай катастрофы, а таксама за кнігу "Лес. Чалавек. Чарнобыль", якая з'явілася вынікам навукова-даследчай працы 38 вучоных на працягу трынаццаці паслячарнобыльскіх гадоў.

НА ЗДЫМКУ: група ўзнагароджаных. Сярод іх (злева направа): дырэктар Інстытута лесу акадэмік Віктар ІПАЦЬЕЎ, загадчык лабараторыі лясной селекцыі Аляксандр КАВАЛЕВІЧ, навуковы супрацоўнік лабараторыі ўзнаўлення харчовых прадуктаў лесу Валерый ГРЫМАШЭВІЧ.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

ШМАТГАЛОССЕ

# ТАЛЕНТ У ПАШАНЕ

У культурным жыцці беларускай сталіцы адбылася адметная падзея — створаны Клуб творчай інтэлігенцыі, скіраваны на захаванне і развіццё традыцый яўрэйскай культуры ў кантэксце беларускай і сусветнай. Наогул, творчых людзей, людзей мастацтва вельмі цяжка аб'яднаць, таму што амаль усе яны маюць свае амбіцыі, не заўсёды могуць зразумець адзін аднаго. Аднак знайшоўся чалавек, які здолеў сабраць іх пад агульны дах дзеля агульных спраў. Душа і генератар ідэй клуба — Святлана Аксёнава-Штайнгруд, чалавек апантаны, паэт і журналіст, да таго ж яна валодае выдатнымі арганізатарскімі здольнасцямі. У клубе можна сустрэць людзей розных творчых схільнасцей: паэта Р. Барадуліна, рэжысёра і акцёра В. Анісенку, кінарэжысёра В. Палякова, архітэктара Л. Левіна, пісьменніка Р. Рэлеса, мастака М. Данцыга, выкладчыка Белдзяржуніверсітэта Г. Сініцу, мастацтвазнаўца Л. Фінкельштэйн і іншых. Тут адбываецца духоўны кантакт паміж дзеячамі беларускай і яўрэйскай культур.

Дзякуючы намаганням кіраўніка клуба і савета, пачалі праводзіцца фестывалі. Адбыўся цыкл вечароў пад агульнай назвай "Жывая гісторыя", прысвечаны трагічным падзеям другой сусветнай вайны. Клуб плануецца правесці конкурс маладых таленавітых музыкантаў. Для лаўрэатаў конкурсу будзе заснавана некалькі стыпендый. Таксама мяркуецца стварыць праграму "Візітная картка" — знаёмства з творчасцю членаў клуба, правядзенне прэзентацый, бенефісаў, выстаў удзельнікаў суполкі.

**Марат БАТВІННІК,**
**Яўген ПРЭСМАН.**

ВЕСТКІ З СУПОЛАК

# «СЯБРОЎСТВА» ШУКАЕ АДНАДУМЦАЎ

**У расійскім горадзе Яраслаўлі — каля дзесяці тысяч беларусаў. Тры тысячы жывуць у Яраслаўскай вобласці. У Яраслаўлі працуе музей Максіма Багдановіча, на яго базе дзейнічае цэнтр беларускай культуры. У лістападзе 1998 года было створана грамадскае аб'яднанне руска-беларускай дружбы "Сяброўства", якое ўзначальвае Тамара Фадзеева. Тамара Уладзіміраўна прыехала ў Беларусь напярэдадні Новага года, каб сустрэць яго са сваёй маці і роднымі. Яна завітала ў Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей, дзе і адказала на некалькі пытанняў газеты "Голас Радзімы".**

*— Большая частка вашага жыцця прайшла ў Расіі?*

— Так. У Мінску я скончыла медыцынскае вучылішча. Выйшла замуж і пераехала ў Яраслаўль. Там вучылася ў медыцынскім інстытуце. Цяпер працую тэрапеўтам у паліклініцы. У мяне дарослы сын, ёсць трохгадовая ўнучка.

*— Як з'явілася "Сяброўства"?*

— Станаўленне аб'яднання доўжылася чатыры гады. У нас адзінаццаць членаў. Сярод іх — дэпутат гарадской думы, архітэктары, вайскоўцы. На чале "Сяброўства"— савет.

Для мяне вельмі важна, што беларусы хочуць быць бліжэй адзін да аднаго. Мы разам адзначаем нацыянальныя святы, згадваем традыцыі, абрады.

*— Якая галоўная мэта стварэння вашай арганізацыі, улічваючы, што ў Яраслаўлі ўжо існуе беларускае аб'яднанне?*

— Мы падтрымліваем Саюз Расіі і Беларусі, усебаковае супрацоўніцтва грамадзян нашых краін, актыўна кантактуем з дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі Беларусі. Наладжаны абмен інфармацыяй. "Сяброўства" — член аддзялення Асамблеі народаў Расіі ў Яраслаўскай вобласці. У нас працуе маладзёжны клуб.

*— Ці адпавядае ўзровень жыцця на Беларусі расійскаму?*

— У Расіі трохі большая пенсія, напрыклад. Што тычыцца зарплаты... Я — урач першай катэгорыі, у мяне значная выслуга гадоў, і зарабляю я каля 800 рублёў (30 долараў ЗША). Але я спадзяюся на змены. І яны адбываюцца: увядзенне страхавой медыцыны, напрыклад.

*— Медыцынскае страхаванне абавязковае ў Расіі?*

— Так. Думаю, што, нягледзячы на цяжкасці перыяду станаўлення, страхавая медыцына сябе апраўдае.

*— Каму стала лепш ад яе з'яўлення?*

— Хворым. Кожны з іх сёння можа выбіраць доктара, атрымаць бюлетэнь у любой паліклініцы.

*— А каму, на ваш погляд, будзе лепш ад Саюза Расіі і Беларусі?*

— Думаю, усім.

**Алена СПАСЮК.**

СПОРТ

***Прыём у гонар лепшых спартсменаў, спартыўных журналістаў і спонсараў беларускага спорту прайшоў у Нацыянальным алімпійскім камітэце Рэспублікі Беларусь.***

Лепшымі спартсменамі Беларусі мінулага года прызнаны: алімпійская чэмпіёнка па акадэмічнаму веславанню Кацярына ХАДАТОВІЧ-КАРСТЭН, чэмпіён свету па біятлону Вадзім САШУРЫН, неаднаразовая прызёрка сусветных першынстваў па мастацкай гімнастыцы Юлія РАСКІНА, мацнейшая спартсменка планеты па сучаснаму пяцібор'ю Жанна ШУБЯНОК, першая ракетка свету ў настольным тэнісе Уладзімір САМСОНАЎ, дзюдаіст Націк БАГІРАЎ, Наталля БАРАНОЎСКАЯ (плаванне), двухразовы абсалютны чэмпіён свету па спартыўнай гімнастыцы Іван ІВАНКОЎ, неаднаразовы прызёр розыгрышаў Кубкаў свету па фрыстайлу Дзмітрый ДАШЧЫНСКІ, вядомы майстар па ўзняццю розных цяжараў Вячаслаў ХАРАНЕКА і іншыя:



Яніна КАРОЛЬЧЫК — лёгкаатлетка.



Узнагароду атрымлівае Уладзімір САМСОНАЎ.



Фота БелТА.

Націк БАГІРАЎ.



## САЦЫЯЛАГІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

# МОЛАДЗЬ І РЭЛІГІЯ

***Напрыканцы мінулага года выйшаў чарговы нумар інфармацыйна-аналітычнага бюлетэня Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў "Новости НИСЭПИ" (Analytic Bulletin of Independent Institute of Socio-Ekonomic and Political Studies). Сярод змешчаных там аналітычных матэрыялаў вылучаецца артыкул кандыдата гістарычных навук Лідзіі НОВІКАВАЙ "Моладзь і рэлігія". Прапануем вашай увазе вытрымкі з гэтага даследавання.***

● **Лідзія НОВІКАВА,**
*кандыдат філасофскіх навук.*

Магутная трансфармацыя грамадскай свядомасці канца 80-х — сярэдзіны 90-х гадоў у краінах былога СССР адзначылася, у ліку іншых, вартым увагі феноменам, які атрымаў назву "рэлігійнага рэнесансу". Сэнс яго ў тым, што гістарычна імгненнае крушэнне камуністычнай ідэалогіі выклікала хуткі і масавы адыход насельніцтва ад абавязковага раней атэізму і адпаведны рост у грамадстве рэлігійных і прарэлігійных настрояў. У прыватнасці, па даных маскоўскіх сацыёлагаў, роля веруючых у складзе насельніцтва Расіі з 1991 па 1996 год вырасла з 35 працэнтаў да 47. Па нашых даных, аналагічная карціна назіралася і ў Беларусі: удзельная вага асоб, якія лічаць сябе веруючымі ў Бога, з 1994 па 1998 год вырасла з 33 працэнтаў да 48.

Як жа будуюцца ўзаемаадносіны цяперашняга маладога пакалення з рэлігіяй і царквою? У якой ступені тыя, каму ад 18 да 30 гадоў, уцягнуты ў працэс "рэлігійнага адраджэння"? І чым спецыфіка іх удзелу ў ім? Паспрабуем даць некаторыя адказы на гэтыя пытанні, базіруючыся на матэрыялах даследавання, праведзенага восенню 1998 года Цэнтрам сацыялагічных і палітычных даследаванняў Белдзяржуніверсітэта пры падтрымцы Фонду фундаментальных даследаванняў НАН Беларусі. Апытанне рабілася па рэпрэзентатыўнай рэспубліканскай выбарцы (1 032 чалавекі). Акрамя таго, у мэтах узмацнення магчымасцей статыстычнага аналізу даных па асноўных канфесійных групах у Мінску дадаткова праведзена апытанне прыхаджан праваслаўнай і каталіцкай цэркваў і пратэстанцкіх суполак (327 чалавек).

Улічваючы, што ўзроставая група, якая цікавіць нас, знаходзіцца ў актыўнай фазе сацыялізацыі, можна раздзяліць яе на дзве падгрупы: малодшую (18—22 гады) і старэйшую (23—30 гадоў). Першая знаходзіцца ў стадыі пошуку сябе ў асноўных сферах грамадскага жыцця (прафесійнай, сямейнай, духоўнай і гэтак далей), яе погляды толькі фарміруюцца, а таму няўстойлівыя, залежаць ад розных знешніх уплываў, "савецкі" жыццёвы вопыт адсутнічае поўнасцю. Прадстаўнікі другой падгрупы знаходзяцца на наступнай стадыі — яны "выстройваюць сябе" ў прафесіі, сям'і і гэтак далей. Іх светапогляд больш устойлівы і рэфлексіўны, іх дзяцінства прыйшло ў апошнія савецкія гады. Натуральна выкаваецца меркаванне, што рэакцыя на некаторыя праблемы, звязаныя з рэлігіяй, у гэтых дзвюх груп будзе рознай.

Такім чынам, веруючымі ў Бога сябе лічаць каля трэці маладых людзей (34,3 працэнта). Гэта трохі менш, чым у наступнай узроставай групе (31—45 гадоў) — 39 працэнтаў, і значна менш, чым у старэйшых групах: доля веруючых сярод асоб ва ўзросце 46—60 гадоў складае 51,5 працэнта, звыш 60 гадоў — 70 працэнтаў. Трэба адзначыць, што сярод моладзі выяўляецца найбольш тых, хто верыць не ў Бога, а ў звышнатуральныя сілы (12,7 працэнта супраць 5—6 працэнтаў у іншых узроставых групах). Гэта носьбіты так званай квазірэлігійнай свядомасці. Яшчэ 38,3 працэнта адносяцца да групы тых, што "хістаюцца", — гэта людзі, няздольныя канкрэтна вызначыць свае адносіны да веры. І, нарэшце, 14,7 працэнта маладых рэспандэнтаў ідэнтыфікуюць сябе як няверуючых.

Што тычыцца канфесійнага самаатаясамлівання маладых веруючых, тут мы ўбачылі наступную тэндэнцыю (атрыманыя даныя патрабуюць дадатковай праверкі, таму канкрэтныя лічбы пакуль не прыводзяцца): у параўнанні з больш старэйшымі, 77 працэнтаў якіх атаясамліваюць сябе з праваслаўем, 15 працэнтаў — з каталіцызмам і каля аднаго працэнта — з пратэстантызмам, моладзь часцей адмаўляецца ад праваслаўя на карысць пратэстантызму. Асабліва гэта характэрна для групы 23—30 гадоў.

**Табліца 1**

**Культавыя паводзіны маладых веруючых (у працэнтах)**

| Варыянты адказаў | 18—22 гады | 23—30 гадоў |
|---|---|---|
| *Ці наведваеце вы богаслужэнні?* | | |
| Так, рэгулярна | 26,0 | 43,5 |
| Так, зрэдку | 62,5 | 47,8 |
| Не наведваю | 11,5 | 8,7 |
| *Ці ўдзельнічаеце вы ў рэлігійных абрадах і таямніцтвах?* | | |
| Так, рэгулярна | 23,1 | 46,7 |
| Так, зрэдку | 47,1 | 38,0 |
| Не наведваю | 29,8 | 15,2 |
| *Ці ведаеце вы тэксты малітваў?* | | |
| Так | 69,2 | 79,3 |
| Не | 30,8 | 20,7 |

Вынікі даследавання паказваюць, што рэлігія і рэлігійная вера адыгрываюць сёння значную ролю ў жыцці маладых людзей. Так, незалежна ад асабістай веры ці няверʼя, дзве трэці апытаных лічаць, што рэлігія патрэбна сучаснаму чалавеку, і толькі 7,3 працэнта думаюць інакш. Якія ж функцыі выконвае рэлігія ў жыцці грамадства сёння?

Самымі галоўнымі функцыямі рэлігіі лічацца маральна-рэгулятыўная і інтэгрыруючая; яна ўспрымаецца ў першую чаргу як цэментуючая аснова нацыянальнай культуры і грамадскай маралі, як увасабленне традыцыі і пераемнасці. Адначасова ў залежнасці ад узросту мадыфікуецца функцыянальны "вобраз рэлігіі". Так, для самых юных больш важныя інтэгрыруючыя і светапоглядныя магчымасці рэлігіі, для старэйшых — яе маральныя і кампенсаторна-псіхалагічныя патэнцыялы. Такім чынам, адносіны да рэлігіі ў малодшай групе (18—22 гады) больш рацыяналістычныя ў параўнанні са старэйшай (23—30 гадоў), а таксама ўсімі іншымі ўзроставымі групамі.

Але звернемся да веруючай часткі моладзі. У яе "функцыянальная" мадэль рэлігіі адрозніваецца ад сярэднестатыстычнай. Побач з маральна-рэгулятыўнай (49,5 працэнта), асноўнай функцыяй рэлігіі прызнаецца знаходжанне пры дапамозе яе сэнсу жыцця (42,8 працэнта), а яе інтэгрыруючая роля адыходзіць на задні план (27,3 працэнта). Іншымі словамі, маладыя веруючыя, у адрозненне ад носьбітаў іншых тыпаў светапогляду, часцей шукаюць у рэлігіі не тое, што яна можа даць грамадству, а тое, у чым яна здольная дапамагчы індывіду, асобе. Да рэлігійнай веры звяртаецца тая частка моладзі, свядомасць якой досыць мнагаслойная і рэфлексіўная, для якой пошукі сэнсу жыцця з'яўляюцца арганічнай складаючай яе духоўнай актыўнасці. Гэта, вядома, не азначае, што любы духоўны пошук такога роду заканчваецца прыходам у храм. Відаць, тут адыгрывае ролю і спецыфіка пэўнага душэўнага складу, і асаблівасці асобаснага псіхатыпу, і гэтак далей.

**Табліца 2**

**Рэлігійная сацыялізацыя ў сям'і (у працэнтах)**

| Характарыстыка сям'і | У сярэднім па выбарцы | | У групе веруючых | |
|---|---|---|---|---|
| | 18—22 гады | 23—30 гадоў | 18—22 гады | 23—30 гадоў |
| Асобы, бацькі якіх веруючыя | 48,7 | 39,7 | 74,0 | 60,9 |
| Асобы, якія атрымалі ў дзяцінстве рэлігійную адукацыю | 21,3 | 16,4 | 33,7 | 33,7 |

Не ў апошнюю чаргу маюць значэнне ўмовы пярвічнай сацыялізацыі ў сям'і. У прыватнасці, веруючыя бацькі маглі і не даваць рэлігійнага выхавання сваім дзецям, але стварыць такую духоўную атмасферу, якая б сама падштурхоўвала да пошуку сябе менавіта ў гэтым накірунку. Сапраўды, атрыманыя ў ходзе апытання вынікі паказваюць, што ў маладых веруючых у 1,5 раза часцей, чым у сярэднім па выбарцы, з'яўляюцца веруючымі і бацькі, якія, у сваю чаргу, давалі ім у дзяцінстве рэлігійнае выхаванне, знаёмілі з рэлігійнымі тэкстамі, вадзілі на богаслужэнні і гэтак далей (табліца 2).

Даныя табліцы 2 сведчаць, што, па-першае, ніякага абсалютнага панавання атэізму ў масавай свядомасці, у адрозненне ад афіцыйнай прапаганды савецкай эпохі, не было. Бацькі нашых рэспандэнтаў — гэта пасляваенныя пакаленні 40—50-гадовых, цалкам выхаваныя на гэтай самай прапагандзе; тым не менш, больш за 40 працэнтаў з іх з'яўляюцца веруючымі (48,7 працэнта ў групе 40-гадовых бацькоў і 39,7 працэнта ў групе 50-гадовых).

Па-другое, у малодшай узроставай групе веруючых бацькоў значна больш, чым у старэйшай. Гэта, магчыма, з'яўляецца рэхам свабоды сумлення, даравалай перабудовай.

Па-трэцяе, менш паловы веруючых бацькоў далі сваім дзецям рэлігійнае выхаванне, прычым такое становішча характэрнае і для веруючай часткі моладзі. Звяртае на сябе ўвагу наступны факт: сярод маладых веруючых доля асоб, якія атрымалі ў дзяцінстве рэлігійнае выхаванне, аднолькавая (33,7 працэнта) у абедзвюх падгрупах. У той жа час колькасць веруючых бацькоў у малодшай групе значна вышэйшая.

Відавочна, што, дзякуючы данай акалічнасці, значная частка сучаснай моладзі лічыць неабходным даваць дзецям рэлігійную адукацыю праз сістэму адпаведных сацыяльных інстытутаў як абавязковы або факультатыўны прадмет у школе, у нядзельных школах і гэтак далей.

І, нарэшце, існуе вельмі важнае пытанне аб магчымасцях ўздзеяння рэлігійнай веры на палітычныя і эканамічныя каштоўнасці індывіда. Дамінуючай (па колькасці прыхільнікаў) канфесіяй у Беларусі з'яўляецца праваслаўе, якое прадстаўляе нерэфармаваную частку хрысціянства. І хоць, як ужо гаварылася, моладзь на яго арыентавана менш, чым іншыя ўзроставыя групы, усё роўна сярод маладых веруючых большасць складаюць праваслаўныя — 43,9 працэнта, католікаў — 8,2 працэнта, пратэстантаў — 26,1 працэнта і 7,6 працэнта "хрысціян у цэлым".

Як паказалі вынікі апытання, асабістая рэлігійнасць значна ўплывае на ўяўленні моладзі пра абавязак і адказнасць кожнага чалавека як асноўным матыве яго дзейнасці (табліца 3). Калі моладзь у цэлым настроена перш за ўсё на прыватнае жыццё і служэнне грамадству (старэйшыя больш арыентаваны на сваю сям'ю, што звязана з узроставымі асаблівасцямі, бо ў гэты перыяд людзі ў асноўным уладкоўваюць сваё асабістае жыццё), то веруючыя звязваюць паняцце абавязку, у першую чаргу, са служэннем Богу і грамадству. Прычым арыентацыя на служэнне грамадству ў іх выяўляецца мацней, чым у носьбітаў іншых тыпаў светапогляду; у малодшай узроставай групе яна наогул з'яўляецца дамінуючай; адначасова эгаістычныя матывы праяўляюцца ў маладых веруючых значна радзей у параўнанні з моладдзю ў цэлым.

**Табліца 3**

**Сувязь рэлігійнасці з уяўленнямі пра асабісты абавязак (у працэнтах)**

| У чым заключаецца абавязак і адказнасць кожнага чалавека? (магчымыя два варыянты адказу) | У сярэднім па выбарцы | | У групе веруючых | |
|---|---|---|---|---|
| | 18—22 гады | 23—30 гадоў | 18—22 гады | 23—30 гадоў |
| Чалавек павінен жыць для самога сябе і сваёй сям'і і больш нікому нічым не абавязаны | 46,0 | 54,3 | 32,7 | 29,3 |
| Чалавек павінен служыць грамадству, людзям | 42,7 | 42,2 | 54,8 | 50,0 |
| Чалавек павінен служыць вышэйшай справядлівасці, Богу | 19,3 | 16,4 | 43,3 | 63,0 |
| Чалавек павінен служыць сваёй краіне, дзяржаве | 13,3 | 17,2 | 12,5 | 10,9 |
| Цяжка адказаць | 16,7 | 13,8 | 12,5 | 9,8 |

Цікава, што гэты высокі ўзровень сацыяльнасці ў веруючых звязаны не з палітычнымі, а з эканамічнымі поглядамі. Так, большасць моладзі, незалежна ад асабістай рэлігійнасці, выступае за палітычную дэмакратыю і абарону правоў чалавека (58,1 працэнта ў сярэднім па выбарцы і 62,6 працэнта веруючых), прыхільнікамі аўтарытарнага рэжыму з'яўляюцца 19,3 працэнта і 14,3 працэнта адпаведна.

Разам з тым эканамічныя погляды рэспандэнтаў значна дыферэнцыруюцца іх адносінамі да рэлігіі. Так, крайнія пазіцыі утапічнага характару (поўнасцю планавая ці поўнасцю рыначная эканоміка) не звязаны з рэлігійнасцю. У той жа час на прамежкавыя мадэлі змешанай эканомікі моладзь арыентавана розным чынам: носьбіты нерэлігійных тыпаў светапогляду часцей з'яўляюцца прыхільнікамі змешанага тыпу эканомікі з перавагай прыватнай уласнасці, веруючыя — з перавагай дзяржаўнай.

Падводзячы вынікі, трэба падкрэсліць, што рэлігія займае сёння значнае месца ў духоўным жыцці моладзі і рост рэлігійнасці ў гэтай узроставай групе хутчэй за ўсё будзе працягвацца.

## ЗАЎТРА ПАЧЫНАЕЦЦА СЁННЯ




Новыя магчымасці для моладзі беларускай сталіцы дае Інтэрнэт-цэнтр, што адкрыты ў будынку Цэнтральнага Камітэта грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз моладзі". Гэты праект рэалізаваны пры падтрымцы Прадстаўніцтва Дзіцячага фонду ААН UNICEF у Рэспубліцы Беларусь. Інтэрнэт-цэнтр уключае вучэбны цэнтр, дзе будуць працаваць высокакваліфікаваныя спецыялісты па дзвюх праграмах "Камп'ютэрная пісьменнасць" і "Сеці. Праца ў Інтэрнэце". Акрамя гэтага, тут дзейнічае Інтэрнэт-клуб і Інтэрнэт-кафэ.

"Інтэрнэт-цэнтр" прызначаны для школьнікаў, студэнтаў, навучэнцаў тэхнікумаў, вучылішчаў, каледжаў.

НА ЗДЫМКАХ: першыя наведвальнікі Інтэрнэт-цэнтра.



Фота Мікалая ПЯТРОВА.

ГУТАРКІ АБ ВЕЧНЫМ

# БІБЛЕЙСКІЯ ПРАРОЦТВЫ

● Уладзімір КОНАН,
*доктар філасофскіх навук.*

Ідэалы дасканалага жыцця ўзніклі задоўга да Богаўвасаблення — нараджэння Ісуса Хрыста і яго вучэння на прасторах Галілеі і Юдэі. Антычныя пісьменнікі і філосафы стварылі міфы пра "залаты век", альбо Рай. Ён уяўляўся як пройдзены этап жыцця. Пра гэта ўзнёсла пісаў паэт Авідый Назон напярэдадні новай хрысціянскай эры (жыў каля 43 г. да н. э. — каля 18 г. н. э.) у паэме "Метамарфозы":

Первым век золотой
народился, не знавший возмездий,
Сам соблюдавший всегда,
без законов, и правду, и верность.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Вечно стояла весна;
приятный, прохладным дыханием
Ласково нежил зефир
цветы, не знавшие сева.
Не отдыхая,
поля золотились в тяжелых колосьях.
Реки текли молока,
струились и нектора реки,
Капал и мёд золотой,
сочась из зелёного дубу…

Біблія (грэч. biblia — кнігі) склалася на працягу I тысячагоддзя да н. э. — 2 ст. н. э. на тэрыторыі Палесціны (старажытнае Ізраільска-Іудзейскае царства) і ў месцах яўрэйскага рассеяння на арамейскай, старажытнаяўрэйскай і старажытнагрэчаскай мовах. Яе першая Кніга Быцця пачынаецца вобразам "залатога веку", або "сельскага Раю", створанага Богам для чалавека: "И насадил был Бог Рай кохания изначала. И в нем поставил человека, его же создал. И изведе Господь Бог от земли всяко древо красно к познанию и добро ко вкушению" (Быццё 2:8-9, пераклад Ф. Скарыны). Апошняя біблейская кніга Апакаліпсіс канчаецца вобразам будучага "гарадскога" Раю — створанага Новага Іерусаліма, месца праведнікаў у царстве Хрыста: " І ўтрэ Бог кожную слязінку з вачэй іхніх, і смерці не будзе ўжо, ні плачу, ні енку, ні хваробы ўжо не будзе…".

Яркі і пластычна выразны вобраз Раю намалявалі біблейскія прарокі, найперш Ісайя: "Тады воўк будзе жыць разам з ягняткам, і барс будзе ляжаць разам з козлікам; і цялятка і малады леў будуць разам, і малое дзіця будзе вадзіць іх. І карова будзе пасвіцца з мядзведзіцаю, і дзіцянияткі іх будуць ляжаць разам; і леў, як вол, будзе есці салому. І дзіця будзе гуляць над апсідавай нарою. Не будуць рабіць зла і шкоды на ўсёй святой гары Маёй, бо зямля напоўніцца веданнем Госпада, як воды напаўняюць мора" (Іс. 11:6-9).

У таго ж Ісайі, іншых біблейскіх пісьменнікаў ёсць прароцтвы аб прыходзе на зямлю Месіі, гэта значыць, Выратавальніка народаў з роду цара Давіда (Іс. 11:1-4). "І станецца ў апошнія дні, гара дому Госпада будзе пастаўлена на чале гор, і ўзвысіцца над узгоркамі, і пацякуць да яе ўсе народы. І пойдуць многія народы і скажуць: прыходзьце, і ўзыдзем на гору Гасподнюю ў дом Бога Якубавага, і навучыць Ён нас хадзіць шляхамі Яго, і будзем хадзіць па слядах Яго; таму што ад Сіона выйдзе закон, і слова Гасподняе — ад Іерусаліма. І будзе ён вадзіць народы, і выкрываць будзе безліч плямёнаў. І перакуюць мячы свае на плугі, а дзіды свае — на сярпы: не падыме народ на народ мяча, і не будуць больш вучыцца ваяваць" (Іс. 2:2-4).

Святая Гара, Гара дому Госпада, Дом Бога Якубавага (Іякава), Сіон (гара, на якой стаіць горад Іерусалім) — усё гэта паэтычныя і тэалагічныя метафары Царства Божага на зямлі, зямнога Раю ў царстве Божым. Паводле хрысціянскай экзегетыкі (тлумачэнне сэнсу Святога Пісання), старазапаветныя кнігі Біблііі адлюстравалі драму гістарычнага быцця народаў. Людзі тысячагоддзямі выпакутавалі надзею на Рай — Божае царства на зямлі. Зямныя пакуты, войны, татальная смерць, што пануе над зямным жыццём, — гэта трагічны шлях да вышыні духоўнай. Пра гэта — непаўторная па глыбіні біблейская кніга Іова: "Так, не з праху выходзіць гора, і не з зямлі вырастае бяда: але чалавек нараджаецца на пакуты, як іскры, каб паднімацца ў вышыню" (Іо 5:7).

Касцёл святога Андрэя ў Слоніме.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

Працяг. Пачатак у № 1.

ПАЭТКІ 20-х: Наля МАРКАВА

* * *

Сінь васільковая.
Далі іскрыстыя.
Цьвецень кляновая.
Рань прамяністая.
Шэрань і просіні
раньню закованы,
Ў прозалаць восені
думкі заснованы.
Зноў пералівы
пунсовага раньня
восень гульлівую
постацьцю
маніць.
Думкі ўвосень
палошчуцца
ў лісьці,
радасьці косы
праносяцца
сьвістам.
Сёньня былое
туляецца ценьню,
ў чырвань адзеты
мае лятуценьні,
Дык чаму маўкліва
ружавеюць далі;
Дык чаму на дзіва
зазьвінеў мінор?
Маё сэрца кадзіць
пераззвонам мая,
дык чаму ў раньні
шчэ смуткуе гай?
Мо таму, што сэрцы —
чырвані каханьня
Завіліся смуткам,
Смуткам
у грудзёх?
Мо таму журбою
Спавіліся далі,
Мо таму і сьлёзы
— дробныя каралі?..
Мо таму і раньня
васільковы вэлюм,
вэлюм васільковы
сьцеле далавах?..
Ой, нашто так
раптам
хваляваць парою,
хваляваць парою
думак сіні бор?
Жменяй лепш
рассыпаць
водблеск васільковы,
васільковы водблеск
іскаркамі зор!
Сінь васільковая.
Далі іскрыстыя.
Цьвецень кляновая.
Рань прамяністая.
Далі маўклівыя
ў росквітах
радасьці,
сэрца сагрэтае
думкі спагадаю.

1926 г.

## АДНА

Варажыла сёньня,
варажыла ўчора
ў цёмнасіні вечар
пад вярбой.

Наліліся думкі
ціхім перакорам,
а у сэрцы
радасьць
ўспыхвала парой.
Сумавалі вербы,
усьмяхалісь далі,
шапацелі лісьця
верхавін,

Думкі у маркоце
радасьцю палалі
разсыпалі
радасьць
ў цвет калін.

Паджыдала друга
у тэй сіні вечар,
сэрца загадала
варажыць.

Месячак таксама
варажыў
аб нечым,
супыняў свой
погляд на мяжы.

І з усьмешкай горкай
паглядзела ў далі,
не дастала вокам
сіні дна.

Струны ціха, ціха
на мінор сьпявалі,
паглядзела —
пуста… зноў адна.

1926 г.

## У СУГУЧНАСЬЦІ СЛОЎ…

Над прасторам балот
расьцілаўся туман,
расьцілаўся туман
ды пялёсткамі.

Нырaў вецер парой,
цалаваў вербы стан,
цалаваў вербы
стан
буйным лёскатам.

У гэту сінюю ноч
калыхалісь вакол,
калыхалісь вакол
песьні восені.

З пераззвонам густым
зачарованы дол,
зачарованы дол…
Вёска ў просіні.

Песьні любыя мне
ў цёмнасіні
прыпол,
ў цёмнасіні
прыпол —
пасыпаліся.
А ў гэту вясну
ў чырваніцьці вакол,
ў чырваніцьці вакол
сталі далі.

І зязюля пяе
у зялёным бары,
у зялёным бары
пералівамі.

І гармошка гучыць
ад зары да зары,
ад зары да зары…
што за дзіва?..

Там жа рогат дзяўчат
так чаруе хлапцоў,
так чаруе хлапцоў
разнаколерам.

Нечым новым парой
расхвалюецца кроў,
расхвалюецца кроў
жытным полем.

Гэты гоман хлапцоў
сьпеў вясёлы дзяўчат,
сьпеў вясёлы
дзяўчат
зачароўвае.

Я ў сугучнасьці слоў
люблю слухаць тады,
люблю слухаць тады
нешта новае!

1926 г.

## УСЁ НОВЫЯ, НОВЫЯ ДНІ…

Усё новыя,
новыя дні,
і на сэрцы
ўсё новыя раны.
Ў вочы вечару,
любы, зірні
і схавайся
ў бялявым тумане.
Ў аксамітную
ноч ля вакна
застануся
адна варажыці:
…"Любіць,
любіць…
ой, не"…
Давідна
мае думкі
хвалююцца
жытам.
Усё новыя,
новыя дні
і ўсё новыя,
новыя людзі.
Толькі гай
мінулым зьвініць
ды альха
жоўтацьвеценьню
нудзіць.
Усё новыя,
новя дні
усьміхаюцца
ў белым тумане.
Знаю. Трэба
адно бараніць —
— Тэй Маяк,
што стаіць на
кургане бараніць…
пакуль сыпяцца
словы,
пакуль радасьцю
песьня зьвініць.
Толькі хочацца
ў подыху новым
пераждыць усе нанава
дні!

1927 г.

* * *

Ружавеюць маладосьці
дні.
Дыямэнтамі мігаюць
ночы.
Ну аб чым сягоньня
гаманіць,
Калі вербы ў запале
рагочуць?..
Ну аб чым?.. Ці сягоньня
нялюба
Зьліцца з шэптамі іх
верхавіньня?..
Мяне вецер ў палёх
прыгалубіць,
Кволы сум маладосьці
раскіне.
І зязюля ў дуброве
кувае.
Сыплюцца зернямі
дні.
Зразумееш ты ўсё,
дарагая,
Толькі ў сінія вочы
зірні.

1928 г.

НА МЯЖЫ ТЫСЯЧАГОДДЗЯЎ

● Людміла ДУЧЫЦ,
*кандыдат гістарычных навук.*

НЕКАТОРЫЯ вучоныя адносяць складванне беларусаў да XII стагоддзя, іншыя — да XIII, нехта да XIV—XVII стагоддзяў. У XIX стагоддзі ўзніклі польская і велікаруская канцэпцыі паходжання беларусаў. Згодна з першай беларусы — частка польскага этнасу (Л. Галамбіеўскі, А. Рыпінскі, В. Студніцкі), а па другой — рускага этнасу (А. Сабалеўскі, І. Сразнеўскі).

Многія даследчыкі лічылі, што беларусы паходзяць ад крывічоў. Напрыклад, М. Пагодзін крывічоў адносіў да беларусаў, дрыгавічоў — да маларасіянаў, а радзімічаў — да ляхаў. Крывічоў у якасці адзіных продкаў беларусаў лічылі таксама М. Без-Карніловіч, А. Сапуноў, Ф. Турчыновіч, М. Любаўскі, А. Шлюбскі. Паводле доказаў многіх вучоных канца XIX — пачатку XX стагоддзяў (М. Кастамараў, П. Галубоўскі, М. Барсаў, І. Шчапелін, Я. Развадоўскі, Я. Карскі, Л. Нідэрле, Д. Анучын, Ф. Канстанцінаў, А. П'янкоў) у этнагенезе беларусаў актыўны ўдзел прымалі ўсходнія і заходнія балты. Так, у пачатку XX стагоддзя сусветна вядомы даследчык Я. Карскі заўважаў, што "…асноўная маса папярэднікаў славян у Беларусі — літоўцаў і латышоў — жыла на Заходняй Дзвіне і Нёмане і асобнымі пасяленнямі распасціралася, патроху змяншаючыся, часам невялікімі астраўкамі, на поўдні да левых прытокаў Прыпяці, а на ўсходзе, магчыма, да Акі". Я. Карскі адзначаў міграцыю славян "…з поўдня (ад Прыпяці і яе прытокаў) і з захаду (магчыма, з Заходняга Буга і Нарава), спачатку да Нёмана, а адтуль да Заходняй Дзвіны на поўнач і да Дзясны і Акі на ўсходзе…" Вучоны лічыў, што ў этнагенезе беларусаў прынялі ўдзел севяране, вяцічы, яцвягі і голядзь, а таксама фінскі этнічны элемент. Працэс утварэння беларусаў, на думку даследчыка, — вынік змяшэння розных славянскіх і неславянскіх "этнічных элементаў".). Я. Карскі таксама паказаў, што шмат беларускіх слоў па паходжанню з'яўляюцца старажытналітоўскімі і старажытналатышскімі. Пазней гэта пацвердзілі і беларускія мовазнаўцы Ю. Мацкевіч, В. Мартынаў, Ф. Клімчук, Т. Суднік, С. Прохарава і іншыя.

Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя антраполагі Е. Чапуркоўскі, А. Здраеўскі, Г. Дэбец і іншыя адзначалі відавочную антрапалагічную блізкасць паміж беларусамі і літоўцамі.

У 60-я гады маскоўскі археолаг В. Сядоў на падставе вынікаў археалагічных раскопак абгрунтавана паказаў, што ў асноўным асіміляцыйныя працэсы паміж мясцовымі балтамі і прышлымі славянамі на тэрыторыі Беларусі адбываліся з сярэдзіны I тысячагоддзя да XII стагоддзя, але балцкія рэлікты ў матэрыяльнай і духоўнай культуры прасочваюцца да XX стагоддзя. На думку даследчыка, менавіта балцкі субстрат з'явіўся той сілай, якая аб'ядноўвала разнастайныя элементы ў адну народнасць. Пасля выхаду ў свет публікацыі В. Сядова на старонках часопіса "Советская этнография" была разгорнута дыскусія пра паходжанне беларусаў. У ёй прынялі ўдзел П. Траццякоў, М. Грынблат, В. Жучкевіч, Г. Хабургаеў і іншыя. У выніку была прызнана значная роля балтаў у паходжанні беларусаў. Пазней Г. Хабургаеў, вывучаючы этна-

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

# «ЗБС «БАЦЬКАЎШЧЫНА» ПРАЙШЛО ПЕРАРЭГІСТРАЦЫЮ

У адпаведнасці з рашэннем аб упарадкаванні дзейнасці палітычных партый, прафесійных саюзаў, іншых грамадскіх аб'яднанняў "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" 6 жніўня 1999 года прайшло перарэгістрацыю ў Міністэрстве юстыцыі Беларусі. Цяпер поўная назва арганізацыі выглядае так:

**Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", альбо скарочана: МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".**

У рэгістрацыйным пасведчанні выкладзены яго асноўныя мэты: умацаванне Беларусі як суверэннай дзяржавы, кансалідацыя беларусаў як нацыі, клопат пра фізічнае захаванне беларусаў.

Зарэгістравана таксама эмблема аб'яднання, якая ўяўляе сабой графічную выяву старажытнага беларускага вершніка "Пагоня" на фоне зямнога шара. Унізе, па акружнасці, надпіс "Бацькаўшчына".

Згуртаванне мае ўсе прававыя падставы праводзіць у адпаведнасці са статутам працу па адраджэнню нацыянальнай свядомасці, культуры, мовы і традыцый беларускага народа, аб'яднанню беларусаў свету незалежна ад іх партыйнай прыналежнасці, палітычных поглядаў, сацыяльнага і маёмаснага становішча, веравызнання. Згуртаванне займаецца культурна-асветнай працай і не аказвае, як многія лічаць, паслуг па росшуку сваякоў у замежжы.

Юрыдычны адрас МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" застаўся ранейшы: 220050, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, д. 15, тэл\факс 289-31-94.

Запрашаем да супольнай працы.

* * *

На цяперашні час МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" налічвае больш тысячы асобных сяброў і прыкладна 2 000 суполных сяброў — членаў суполак беларускай дыяспары ў замежжы. Зараз дзейнічае 7 рэгіянальных арганізацый у Беларусі — Брэсцкая, Віцебская, Гарадоцкая, Гомельская, Мінская, Навагрудская; 11 рэгіянальных арганізацый у замежжы: Беларускі клуб у Сіднеі, Таварыства беларускай культуры ў Літве і г. д. Супольнымі сябрамі "Бацькаўшчыны" з'яўляюцца 58 беларускіх арганізацый у Англіі, Аўстраліі, ЗША, Канадзе, Латвіі, Літве, Малдове, Польшчы, Расіі, Узбекістане, Украіне, Францыі, Эстоніі.

У апошні час управу "Бацькаўшчыны наведалі і вырашылі свае пытанні прадстаўнікі суполак з Расіі: Калінінграда, Новасібірска, Якуцка і іншых, з Польшчы (Варшава), а таксама з Літвы і Латвіі.

* * *

Дзейнасцю МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" зацікавілася нацыянальна-культурная аўтаномія "Беларускае зямляцтва Паволжа". У лісце, дасланым у "Бацькаўшчыну", адзначаецца, што ўлады Беларусі і Саратаўскай вобласці, дзе пражывае больш за 17 тысяч этнічных беларусаў, падтрымліваюць ідэю нацыянальна-культурнага цэнтра, які будзе спрыяць адраджэнню і захаванню нацыянальных традыцый, культурных і гістарычных сувязей суродзічаў з Бацькаўшчынай. У планах зямляцтва — адкрыццё беларускага класа ў мясцовай гімназіі. Суродзічы праяўляюць цікавасць і актыўна ўдзельнічаюць у працы зямляцтва. Падтрымку і дапамогу яму, як адзначаецца ў лісце, аказвае ініцыятар адраджэння традыцый мовы і культуры беларускага народа на саратаўскай зямлі, старшыня праўлення "РТ-Холдинг" Андрэй Палазнік. Шчыра радуемся за вас, землякі. Плёну вам у гэтай высакароднай працы.

**Галіна СЯРГЕЕВА,**
**сябра ўправы МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".**

УРАЖАННІ

# ПРА РЫБАЛЫ — БЕЛАРУСКІ ЦАРКОЎНЫ ПРЫХОД У ПОЛЬШЧЫ

Беларускае гістарычнае таварыства нядаўна выдала новую кнігу вядомых краязнаўцаў і даследчыкаў гісторыі праваслаўя ў Польшчы айца Рыгора Сасны і Дарафея Фіёніка — "Прыход Рыбалы". Пра вялікае беларускае сяло Рыбалы, размешчанае на поўдзень ад слаўтага гарадка Заблудава непадалёку ад ракі Нарэў, добра вядома за межамі Польшчы. Рыбалаўскі царкоўны прыход, у склад якога ўваходзяць апрача саміх Рыбал такія паселішчы, як Паўлы, Канюкі, мае вельмі багатую гісторыю, апісанне якой аўтары манаграфіі пачынаюць з дагістарычных часоў.

Тэрыторыя прыходу, размешчаная на крайнім заходнім памежжы беларускай культурнай традыцыі, спрадвеку праваслаўнай, зведала на працягу мінулых стагоддзяў вельмі складаныя пераўтварэнні, што адбіліся як на лёсе яе жыхароў, так і знешнім выглядзе самой зямлі, уключаючы мясцовы рэльеф.

Кнігу, безумоўна, можна лічыць своеасаблівай энцыклапедыяй тутэйшых мясцін. Аўтары закранаюць агульныя пытанні фізічнай геаграфіі, даволі падрабязна пішуць пра мясцовыя назвы, затым ідзе грунтоўны нарыс гісторыі найважнейшых населеных пунктаў ад моманту першага пісьмовага ўпамінання пра іх да сённяшняга дня.

Уласна гісторыі населеных пунктаў, прыходу прысвечана першая частка кнігі з дванаццаці раздзелаў, сярод якіх неабходна назваць такія, як "Прыходская школьная адукацыя", "Бежанства", што закранаюць падзеі перыяду 1910-х — пачатку 1920-х гадоў, калі адсюль у глыб цяперашняй Расіі, Украіны і Беларусі была эвакуіравана вялікая частка насельніцтва, прычым некаторыя паселішчы пакінуты поўнасцю — напрыклад, Канюкі. Раздзел пра школьную адукацыю ледзь ці не ўпершыню малюе, праўда ў самым сціслым выглядзе, карціну навучання сялянскіх дзяцей сіламі прыходу, пачынаючы са старажытнасці, калі ў Рыбалах "парафіяльная школка" існавала час ад часу і галоўнай дзеючай асобай у ёй быў "дзяк", да пачатку ХХ стагоддзя, калі ў тутэйшай мясцовасці існавалі ўжо "3 царкоўна-прыходскія школы са 159 вучнямі", "1 школа граматы — 28 вучняў" і "1 школа Міністэрства адукацыі з 84 вучнямі". Цікавыя звесткі, што тычацца з'яўлення ў школьнай практыцы беларускай мовы (прыводзяцца ў раздзеле "Прыход у ІІ Рэчы Паспалітай"), якая аб'яўляла, па сутнасці, праваслаўнае духавенства "прадстаўнікамі не існуючай ужо Расійскай імперыі". Ці варта здзіўляцца, што ў школах гэтых спрадвеку населеных беларусамі мясцін беларуская мова рэгулярна пачала ўжывацца толькі пасля ўваходжання Заходняй Беларусі ў склад БССР, г. зн. з пачаткам новага 1939/40 школьнага года.

Вялікае месца ў кнізе займае другая яе частка — "Святыні", што складаецца з васьмі раздзелаў, прысвечаных прыходскай царкве святых Касьмы і Даміяна ў Рыбалах, царкве святога Георгія там жа, цэрквам святога Іаана Багаслова ў Паўлах і святога Міхаіла Архангела ў Войшках, капліцам у Пятрашках, Канюках і іншых мясцінах.

У трэцяй частцы кнігі, названай "Прыходскі клір", прадстаўлены багаты матэрыял па гісторыі мясцовага духавенства, псаломшчыкаў і царкоўных старастаў з пачатку XVII стагоддзя да гэтага часу.

Чацвёртую частку манаграфіі аўтары прысвяцілі народнай культуры, расказаўшы пра яе ў наступных раздзелах: "Год у народнай традыцыі", "Сямейная абраднасць", "Традыцыйны фальклор і сучасная народная творчасць", "Упрыгажэнні ў традыцыйным будаўніцтве". Уласна да праяў народнай культуры з поўным правам можна было б аднесці і некаторыя мясцовыя царкоўныя звычаі, напрыклад, так званы "абход палёў", пра які аўтары неаднаразова згадваюць у іншых частках сваёй кнігі.

Вельмі каштоўным дапаўненнем да кнігі, старанна надрукаванай беластоцкай фірмай "Ортдрук", служыць даволі аб'ёмная частка "Прылажэнні", якая ўтрымлівае розныя архіўныя дакументы, табліцы, мясцовы фальклорны тэкст, а таксама 70 выдатных ілюстрацый, што даюць наглядное ўяўленне пра жыццё і культуру беларусаў рыбалаўскага прыходу.

**Юрый ЛАБЫНЦАЎ,**
**Ларыса ШЧАВІНСКАЯ.**
Масква.

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# Нэлі БАГУСЛАЎСКАЯ: УРАСЛА Ў

**Зорны час спявачкі, заслужанай артысткі Беларусі Нэлі Багуслаўскай доўжыцца амаль трыццаць гадоў. У 1962-м яна прыехала ў Мінск і заключыла кантракт з Беларускай дзяржфілармоніяй на тры месяцы, але затрымалася значна даўжэй. Яна была кумірам. Шквалам апладысментаў гледачы сустракалі кожную песню, кожны выхад на сцэну "непараўнальнай" Нэлі Багуслаўскай. З гастролямі яна аб'ездзіла амаль увесь былы СССР, не ведаючы спакою і адпачынку. І раптам цяжкая хвароба! Спявачка замоўкла на сем гадоў...**

**Вяртанне Багуслаўскай на эстраду адбылося ў 1995 годзе: на першым міжнародным фестывалі "Залаты шлягер" у Магілёве яна выканала ўласную песню "Восень", музыку да якой напісаў яе муж — вядомы беларускі кампазітар Ізмаіл Капланаў.**



**— Нэлі Захараўна, вы і спяваеце "Восень" разам. Можа, раскажаце гісторыю стварэння гэтага твора?**

— Калі я захварэла, муж, які ўсе 30 год быў музычным кіраўніком майго ансамбля і рабіў аранжыроўкі, стаў маёй сядзелкай. Пасля інсульту не магла паднесці нават лыжку да рота... Мужу трэба было ўтрымліваць сям'ю і весці справы аднаму. Ён стаў адміністратарам: спачатку дырэктарам групы "Шчаслівы выпадак" у Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча, потым некалькі год працаваў з Ярославам Еўдакімавым у філармоніі. І пастаянна гаварыў, што верыць у мяне, "сваю Нэлі".

Каб не рабіць мне балюча, шэсць гадоў не падыходзіў да фартэпіяна. А тут неяк раніцай мяне разбудзіла "жывая музыка". Паднялася з ложка і ціхенька падышла да дзвярэй кабінета. Бачу: Ізмаіл у халаце і хатніх тапачках нешта наігравае на фартэпіяна.

— Ты ведаеш, я напісаў песню, — сказаў ён. — Тэксту няма. Але мне ўяўляецца: восень, падае лісце. Ён і яна, пражыўшы разам доўгія гады, ідуць па старому пакінутаму саду, дзе ўпершыню сустрэліся. Гады толькі замацавалі іх пачуццё.

"Гэта пра нас", — падумала я. Пасля хваробы навучыў хадзіць, гаварыць. Цяпер хоча вылечыць музыкай. У маладосці я пісала вершы. Але гэта было, як лічыла, несур'ёзна. А тут ён прайграў мелодыю, і словы з'явіліся самі па сабе, леглі на музыку.

Мы разам ужо 40 гадоў: "Восень" дарагая тым, што яна — першая пасля доўгага маўчання: майго — як спявачкі, Ізмаіла — як кампазітара. Тады, у 1995-м, у Магілёве на "Залатым шлягеры" мы з мужам выканалі яе разам. Поспех быў грандыёзны.... Увогуле мы яе часта спяваем, у тым ліку і ў музычнай рэтра-шлягер праграме "Старыя-разбойнікі". Бо размова ідзе не пра каляндарную восень, а пару чалавечага жыцця, калі можна ацаніць усё, што засталося за плячыма, і, пакуль не позна, паправіць.

**— А што гэта за праграма "Старыя-разбойнікі"?**

— Пасля фестывалю "Залаты шлягер", куды мяне літаральна "выцягнуў" вельмі добры хлопец і зорка беларускай эстрады Алег Ціуноў, цікавасць да старых песень і старых выканаўцаў узрасла незвычайна. Вось Алег і вырашыў зноў "звесці" гледача і тых артыстаў, у каго некалі і сам вучыўся: Алега Жукава, чые песенныя хіты "Наташка-Наташка", "Людзі сустракаюцца, людзі ўлюбляюцца — жэняцца" калісьці гучалі па гарадах і вёсках Савецкага Саюза; Віктара Сінайскага — ён працаваў у жанры пародый-куплетаў, яму і сёння на эстрадзе няма роўных; заслужанага артыста Беларусі Эдуарда Міцуля, якога любілі не менш, чым Мусліма Магамаева. А сёння Эдзік — вахцёр у філармоніі...

Мы з радасцю згадзіліся на ўдзел у новай музычнай праграме. Хаця і пастарэлі, але з галасамі нашымі нічога не зрабілася. Ды і ў душы адчуваем сябе маладымі. Чым не "старыя-разбойнікі"!

**— Нэлі Захараўна, як вам удаецца знаходзіць для рэпертуару столькі песень пра дабро, пяшчоту, каханне?**

— Цяжка. Я заўсёды пазбягала модных шлягераў, падобных на прыгожых матылькоў, што нараджаюцца і паміраюць імгненна. Каб песня стала "маёй", словы і музыка павінны змяшчаць глыбокі сэнс, хваляваць. Для мяне важна бачыць вочы людзей у зале, вочы, дзе пры жаданні прачытаеш усё. Люблю змястоўныя, глыбокія тэксты. Няхай нават жартоўныя, але абавязкова з "чалавечай зачэпкай".

Мае дзяцінства і юнацтва прыйшліся на ваенныя гады. Я і зараз часта бачу ў сне, што іду па дарозе ў натоўпе бежанцаў: маці з торбай за спіной і я, шасцігадовая худзізна, з усёй сілы трымаюся за яе руку і вельмі баюся згубіцца, адстаць. Раптам з'яўляюцца самалёты, ляцяць бомбы. Усе мітусяцца, схавацца няма дзе. Людзі адзін за адным падаюць на зямлю. Я крычу: "Мама!.." Але яе нідзе няма. Мне і цяпер страшна, нават у сне. Чамусьці менавіта так і здарылася ў жыцці: я папала пад бамбёжку, згубілася. Былі доўгія гады сіроцтва... Затое пазнала жыццё. І, стаўшы спявачкай, адбірала для сцэны толькі тое, што ішло ад жыцця. Калі з'явілася, напрыклад, песня "Першы вальс", яна на доўгія гады стала маёй візітнай карткай. Справа даходзіла да смешнага. Музыканты з мяне кпілі: "Захараўна, нябось, хлопец — герой тваёй любімай песні — сваіх дзяцей у школу водзіць, а ты ўсё спяваеш пра яго як пра васемнаццацігадовага". А для мяне ён застаўся такім. Аўдавелая маці выгадавала сына пасля вайны і прыйшла на яго школьны выпускны баль. Сын запрашае яе на вальс. Гэта песня так запала мне ў душу! З такім жа пачуццём выходзіла на сцэну і з "Баладай пра танга".

**— Кампазітары пісалі асабіста для вас?**

— Не, персанальных кампазітараў не мела. Затое была Аля Пахмутава і яе "Пяшчот-



З НІЗКІ АПАВЯДАННЯЎ «НЕПАМЯРКОЎНЫЯ...»

# «ЛАСТАЎКА»

ПЛАТОН апрытомнеў у камеры, калі ўжо развіднела. Страшэнна балела і кружылася галава. Паспрабаваў устаць, але не змог. Нават павярушыцца было балюча. Гледзячы на столь, Платон стараўся ўспомніць, што ж адбылося за гэтыя апошнія некалькі гадзін...

Вось ён ізноў у "сваёй" дваццаць чацвёртай... Ляжыць... Відаць, яго білі і пасля таго, як страціў прытомнасць. Яны рызыкавалі: "кіраўнік контррэвалюцыянераў" мог захлынуцца ўласнай крывёю... "Напэўна і захлынаўся," — падумаў Платон, гледзячы на руку, якая ляжала перад вачыма. Сваю руку. Прамоклы рукаў кашулі падсох яшчэ не зусім — ён раптоўна адчуў прыкры, рэзкі пах, якога так баяўся ў дзяцінстве. Калісьці ад убачанай кроплі крыві мог страціць прытомнасць, а зараз ад яе паху ажыў...

Гэтай ноччу следчыя "працавалі" асабліва старанна. Пэўна, тэрміны падціскалі... Магчыма, і нервы здавалі... Калі стажор, перамігнуўшыся са сваім "настаўнікам" Быкоўскім, ззаду ўдарыў нагой па пячонцы, Платон утрымаўся, але адчуванне, што з яго вырвалі кавалак мяса, засталося да гэтай пары... Ацаніўшы сваю трапнасць і падбадзёрыўшыся пахвалою Быкоўскага: "Маладзец!", стажор раптоўна дадаў Платону і размашысты "справа"... Патрапіў таксама туды ж, куды і меціў: нос Платона захрусцеў... Пераноссе было перабітае, і ненавісны з дзяцінства смак крыві зноў абрынуўся на яго... Тады ён адключыўся першы раз...

Недзе, ужо "не тут", Платон усвядоміў, што яму добра і спакойна. Як хутка ён патрапіў "туды"... Але пайсці "туды", дзе спакойна, яму не далі... Міска з вадой стаяла ля акна нездарма... Забіваць ужо прыгаворанага следчыя, па ўсім, яшчэ не збіраліся... Тым больш цяпер. Яны ажывілі Платона, адцягнулі яго ў кут і прытулілі да сцяны...

"Давай драматурга.. Няхай хоць раз сам паўдзельнічае ў прадстаўленні... Рэжысёрам будзе гэты, бязносы, а мы сціпла, артыстамі..." Следчы са стажорам зарагаталі...

Калі прывялі "першага народнага", Платон яго адразу не пазнаў... Жывы класік нагадваў жывы труп... На збітым да чарнаты твары блішчэлі налітыя крывёю (лопнулі сасуды) вочы. Некалі прыгожая чупрына ператварылася ў шэрую шапку саломы... Класік не ўбачыў Платона. Ці бачыў ён цяпер наогул што-небудзь?

"Першы народны" адлучана глядзеў у адчыненае за спіной следчага акно... Платон зразумеў, пра што зараз думае драматург...

"Сядай, Іосіфавіч, не бянтэжся", — быццам угадаўшы думкі старога, "па-сяброўску" пачаў Быкоўскі. Стажор памкнуўся зноў паказаць сябе: "дапамагчы" дзеду сесці — паўтарыць свой ужо адпрацаваны, як ён лічыў, удар, але следчы позіркам спыніў яго. "Як сабака: з паўпозірку разумее, — падумаў Платон. — Добрую сабе змену Быкоўскі падрыхтаваў..."

"Дык вось, — прыязна працягваў следчы, — твая надзея, тваё заўтра, твой красунчык Платон красунчыкам, як бачыш, ужо не будзе... Ды й ці справядліва гэта? Паглядзі на мяне. Усё жыццё, з дня ў дзень служу барацьбе за святую справу — і на табе: "нос картошкой, хрен гармошкой, глазки-салазки, уши торчком..." Жанчыны нават кветкі баяцца ад мяне прымаць... Несправядліва неяк на нябёсах размеркавалі... Цяпер усё будзе інакш. Па справядлівасці. Тваім красунчыку, я думаю, дзеўкі перастануць надакучаць... Глядзіш, з галадухі і нас, сціплых, заўважаць..."

"Максімыч, — звярнуўся Быкоўскі да вучня таксама па бацьку, — заснуў ці што? Запрасі "дзеда" прысесці".

І "Максімыч", зразумеўшы, чаго ад яго хочуць, ударам кулака ў спіну прымусіў "першага народнага" праляцець міма табурэткі і ўпасці на стол Быкоўскага...

"Ай, Максімыч, — дакорліва сказаў настаўнік, — малады, а з нервамі не ў парадку..." І штуршком далоні "пасадзіў" старога на табурэтку...

"А ты, красунчык, глядзі і запамінай, як з-за цябе, — толькі з-за цябе! — пакутуе твой бог, твой настаўнік..."

Зноў поглядам Быкоўскі даў знак стажору, і той умомант выцягнуў табурэтку з-пад "першага народнага..." Але перш чым стары ўпаў на падлогу, стажор паспеў ударыць яго нагой у спіну... Узбуджаны поспехамі Максімыча, кінуўся да "народнага" і следчы. Схапіўшы яго за сівую чупрыну, ён некалькі разоў стукнуў старога галавой аб калена... Але зірнуўшы раптам на Платона, які сядзеў у куце, быццам апамятаўся і, адхіліўшы стажора, што дайшоў ледзь не да шаленства, сказаў: "Кліч Ігната. Скажы пра "ластаўку"... Можа, у красунчыка язык нарэшце развяжацца...."

Праз некалькі хвілін у кабінет забегла трое. "Гэтага, што ў куце ляжыць?" — перабіваючы пытаннем сваё частае дыханне, спытаў Ігнат, які ўляцеў першым. Следчы кіўнуў галавой. "Старога? Ды ён жа не вытрымае... Але добра... Добра!.. Ды не крычы ты, бык..." — агрызнуўся Ігнат...

Далейшыя падзеі з неймавернай хуткасцю праносіліся перад вачыма Платона...

Адзін са "спецыялістаў" па "ластаўцы" ўдарыў старога кулаком у жывот, а другі, схапіўшы за сівыя валасы, пацягнуў ягоную галаву да каленяў, як бы пераломваючы старога напалам. Пачуўся хруст... Прастора паміж Платонам і "спецыялістамі па ластаўцы" пачала запаўняцца туманам... Платон яшчэ бачыў, як на складзенае ўдвая цела паставілі крэсла, і стажор, задаволены тым, што сцяміў, куды трэба сесці, заўсміхаўся... Калі следчы падняў нагу над старым, які сіпла хрыпеў, Платон прашаптаў: "Усё... Хопіць..." І адключыўся.

На здзіўленне, шэпт яго пачулі адразу...

...Платон ляжаў нерухома. Паступова ён адыходзіў туды, дзе заўсёды шмат святла і сонца. "Дзякуй Богу, — пранеслася ў галаве. — Хутка канец... Падпісаў. Цяпер туды — да свабоды, да сонца..."

Ён не ведаў, што праз дзве гадзіны яго пацягнуць на расстрэл. Калі па яго прыйдуць, кат, што будзе стаяць ззаду ад наглядчыкаў, скажа аднаму з іх: "Ты ж абяцаў, што ён здохне. Ну ты і сука!.."

* * *

...Закінутыя ў камеру глыбокай ноччу двое з апошняй партыі арыштаваных "контррэвалюцыянераў", як і шмат хто з навічкоў, думалі, што "ў гэтым жаху" апынуліся выпадкова. Толькі ўчора напісаны імі ў сааўтарстве верш "З першым снегам..." надрукавала адна з цэнтральных газет. І хлопцы не сумавалі: хутка ўсё высветліцца, там разбяруцца, і іх адпусцяць. Яны падбадзёрвалі сябе, расказвалі анекдоты, жартавалі... Чакалі — усё будзе добра...

Калі стала світаць і перад імі на сцяне пачалі праяўляцца напісаныя крывёю словы, двое навічкоў, чытаючы іх, паступова нямелі...

Наглядчык, які так "палюбіўся" кату, зайшоў раніцай у камеру № 24, паглядзеў на распісаную крывёю сцяну і, развеўшы ад здзіўлення рот, услых, па літарах, як умеў, прачытаў:

"Людзі! Прабачце, калі я вінаваты перад вамі. Гісторыя яшчэ скажа праўду пра нас. Платон".

Леанід МАРАКОЎ

# «Я СЭРЦАМ БЕЛАРУСЬ...»

насць", "Геолагі". Быў Астроўскі з цыклам "А ў нас у двары". З гэтымі песнямі аб'ездзіла ўвесь Савецкі Саюз. Не лічыла ганебным выконваць творы, якія любілі іншыя спевакі. Вось і нядаўна мне спадабалася песенька на вершы беларускага паэта Алеся Ставера "Размова з унукам". Быццам бы нічога ў ёй асаблівага няма. Дзядуля вучыць унука: "Што б у тваім жыцці ні здарылася, толькі нос не задзірай!" Колькіх маладых людзей тычыцца сёння гэтая фраза! Ганарлівыя без меры, самаўпэўненыя, а першых цяжкасцей не вытрымліваюць.

**— Але час змяніўся, і зараз многія кампазітары маюць жаданне напісаць песню спецыяльна для Нэлі Багуслаўскай!**

— Уладзімір Буднік напісаў музыку на верш "Ксенія" маёй любімай паэткі Нэлі Тулупавай. Атрымалася песня пра лёс простай беларускай жанчыны, якая засталася адзінокай, таму што той, каму было аддадзена яе сэрца, не вярнуўся з вайны. Іншага лёсу Ксенія не хацела. Шыла падвянечныя сукенкі для шчаслівых нявест, жадаючы ім, каб любілі сваіх мужоў не толькі за сябе, але і за яе таксама. Каго не хвалююць моцныя пачуцці цэльных натур? Мне звоняць і пішуць, дзякуюць, нават прапаноўваюць свае вершы ад душы. Зараз піша песні для мяне і мой муж. Ён ведае, што я не жыву без вершаў любімых паэтак Нэлі Тулупавай, Веранікі Тушновай, Сільвы Капуцікян, і перакладае іх на музыку.

**— Нэлі Захараўна, вас хвалюе тое, што адбываецца сёння на эстрадзе!**

— Складаны час, нікому не патрэбны наш каштоўны вопыт, багаж пэўных ведаў. Забылі пра пераемнасць у мастацтве. Пра тое, што сапраўдны артыст — катэгорыя асобая. У Маскве, Кіеве ёсць інстытуты — майстэрні цыркавога і эстраднага мастацтва, а ў нас — няма. На эстраду прабіваюцца людзі, якія не маюць да яе ніякіх адносін. Убачыш іх у кліпе "два прытопы, тры прыхлопы — дэманстрацыя не голасу, а канечнасцей". А як апрануты, дакладней, распрануты нашы "зоркі"! Ніхто не прывівае ім густу, не гаворыць, што хаця сцэна ўсяго на паўметра вышэй за глядзельную залу, яны міжволі выхоўваюць людзей — голасам, словамі, мелодыяй, адзеннем, прычоскай. І толькі тое, што нясе прыгажосць, гармонію, дабрыню, мае права на жыццё.

**— Нэлі Захараўна, вы — заслужаная артыстка Беларусі, выдатна валодаеце беларускай мовай. Дзе вы нарадзіліся?**

— Я з Украіны. Выхоўвалася ў дзіцячым доме на Урале. Вучылася ў Таджыкістане. І амаль усё жыццё працавала ў Беларусі. Тут нарадзіліся мае дачка і ўнучка. У гэтай зямлі пахавана маці: знайшла яе праз многія гады пасля вайны і ў Мінск забрала. Як гавораць, урасла каранямі ў Беларусь.

Беларускую мову мне дапамагла вывучыць Ганна Рыжкова — таленавітая актрыса размоўнага жанру. Сама руская, яна цудоўна валодала беларускай мовай.

Асабіста для мяне ніколі не існавала нацыянальных або рэлігійных адрозненняў паміж людзьмі. Пасля таго, як я, лічыце, амаль што пабыла на тым свеце, люблю ўсіх людзей і паважаю іх патрыятычныя пачуцці. Жыць стала так цікава! На днях: бягу на рэпетыцыю і сустракаю жанчыну, якая гаворыць мне кампліменты, расказвае, чым дарагі для яе міжнародны музычны фестываль "Залаты шлягер", а потым нясмела працягвае вершы. Спачатку не знайшла, што сказаць. А цяпер ведаю: новая песня будзе!

**Гутарыла Таццяна ХРАПІНА.**

ВЫСТАВЫ





Выстава жывапісу Рыгора Несцерава ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва стала для мастака дзесятай персанальнай, паказанай у Беларусі. За апошняе дзесяцігоддзе былі яшчэ выставы ў Іспаніі, Германіі, Аўстрыі, Швейцарыі, Расіі, ЗША. Працы Р. Несцерава ўключаны ў каталог сусветнай выставы, якая адбудзецца ў Галандыі ў 2000 годзе.

Ёсць чаму здзіўляцца, тым больш, што да дзевяностых гадоў Рыгор Несцераў быў вядомы ў асноўным як мастак-манументаліст. Пераход на малы фармат азнаменаваўся і знаходкай непаўторнага стылю. Амаль усё адлюстраванае на яго палотнах пазбаўлена выразных контураў. Свет, створаны мастаком, выступае як бы праз кісяю і ўспрымаецца, як сон.

Пастэльны тон узмацняе гэта ўражанне. У работах Рыгора Несцерава няма зрокавых раздражняльнікаў, яны нясуць спакой і прымірэнне. Магчыма, таму так многа яго карцін знаходзіцца ў прыватных калекцыях у многіх краінах свету.

НА ЗДЫМКАХ: Рыгор НЕСЦЕРАЎ; "Рыбалка" — адна з карцін мастака.

**Тэкст і фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

ЧЫСТЫЯ ГАЛАСЫ ДЗЯЦІНСТВА

# З ШКОЛЬНАЙ ФІЛАРМОНІІ — У ВЯЛІКУЮ КАНЦЭРТНУЮ ЗАЛУ

СЁННЯ ў Мінску шмат агульнаадукацыйных школ з рознымі ўхіламі: эстэтычным, спартыўным, мастацкім, харэаграфічным, музычным... І гэта вельмі задавальняе бацькоў, бо яны маюць магчымасць выбраць навучальную ўстанову адпаведна жаданню і здольнасцям дзіцяці.

Сярэдняя школа № 145 мае музычна-харавы ўхіл. Тут склалася цікавая сістэма музычнага навучання.

Кожны год па жаданню дзеці праходзяць праслухоўванне, і тых, хто мае музыкальныя здольнасці, залічваюць у спецыялізаваны першы клас, дзе разам з пісьмом, чытаннем, матэматыкай выкладаюцца адпаведныя музычныя дысцыпліны: сальфеджыо, музычная літаратура, хор. Дзяцей вучаць іграць на адным з музычных інструментаў: піяніна, цымбалах, акардэоне, баяне, скрыпцы. І ўсё гэта — бясплатна для бацькоў школьнікаў.

У сто сорак пятай школе адкрыта ўласная "філармонія", дзе кожнае выступленне прысвячаецца пэўнай тэме: напрыклад, "Народная беларуская музыка — дзецям", "Рускі раманс". Удзельнічаюць у канцэртах "школьнай філармоніі" ўсе вучні музычных класаў, а гледачы — іх сябры, якія такім чынам таксама атрымліваюць пэўныя музычныя веды, бацькі, выхаванцы дзіцячых дамоў, жыхары інтэрнатаў для састарэлых.

А яшчэ цікава, што кожны музычны клас — асобны маленькі хор. Лепшыя ўдзельнікі такіх класных калектываў спяваюць у агульнашкольным ансамблі народнай песні і ў канцэртным хоры.

Канцэртны хор "Раніца" існуе з 1988 года. Ім кіруе старшы выкладчык кафедры харавога дырыжыравання Беларускай акадэміі музыкі Святлана Герасімовіч. У 1990 годзе калектыў атрымаў ганаровае званне "Узорны".

Спяваюць у хоры 50 чалавек, з іх, праўда, толькі пяць хлопчыкаў. Кожны год выпускнікі пакідаюць хор, ім на змену прыходзяць малодшыя дзеці.

За час існавання "Раніца" выступала на лепшых пляцоўках Мінска, гастраліравала ў рэспубліках былога СССР. Па запрашэнню мэрыі Дэтройта ўдзельнічала ў Калядных канцэртах у ЗША. Сумесна з грамадскімі арганізацыямі Германіі хор выступаў у дабрачынных канцэртах. З мэтай культурнага абмену пабываў у Штутгарце, Мюнхене, Кёльне, іншых гарадах Германіі, у Бельгіі, Польшчы. Фаназапісы выступлення хору ўнесены ў фонд Беларускага радыё.

У Мінску хор паспяхова ўдзельнічае ў разнастайных фестывалях, дае дабрачынныя канцэрты ў шпіталі для ветэранаў вайны, дамах састарэлых, інтэрнатах для дзяцей-сірот і інвалідаў.

Дарэчы, ноты і словы адной з сваіх любімых песень "Пойдзем, дзевачкі" хор "Раніца" прапануе чытачам:

**1. Пойдзем, дзевачкі,**
**на лужкі гуляць,**
**На лужкі гуляць, вянкі**
**завіваць.**

## ПОЙДЗЕМ, ДЗЕВАЧКІ
*(Беларуская народная песня)*




**2. Вянкі завіваць, на Дунай**
**пускаць,**
**На Дунай пускаць, любага**
**чакаць.**

(Пасля распеву на "а" першы и другі куплеты паўтараюцца).

У ліпені 1996 года хор прымаў удзел у І Міжнародным конкурсе імя Мендэльсона, дзе стаў сярэбраным лаўрэатам. "Раніца", пераможца фестывалю "Сузор`е", была запрошана ў Мінскую філармонію для ўдзелу ў дзіцячым харавым святе накшталт эстонскага свята песні. Адкрываў і закрываў свята Віктар Роўда — прафесар, народны артыст Беларусі. Ён дырыжыраваў усёй гэтай велізарнай пеўчай кампаніяй. А потым адзін за адным, непарыўным спеўным ланцужком на сцэну выходзілі асобныя хоры, кіраўнікам якіх пашчасціла, бо яны таксама мелі магчымасць дырыжыраваць усёй залай. Гучала вельмі розная музыка: класічная, народная беларуская і руская, духоўная і эстрадная.

Свята песні асабліва ўразіла дзяцей, бо, калі я пыталася ў іх, якія з апошніх выступленняў найбольш спадабаліся і запомніліся, усе ў першую чаргу згадвалі менавіта яго.

Сёлета "Раніца" абнавілася аж на 28 чалавек. Каб трымаць узровень, даводзіцца шмат працаваць. І вось нядаўна, у канцы лістапада мінулага года, выпрашылі паказацца новым саставам гасцям з Аўстрыі, якія ў Мінску займаюцца дабрачыннай дзейнасцю, і не беспаспяхова.

Вось уражанне ад сустрэчы з хорам патэра Вернэра:

— Мне вельмі спадабаўся канцэрт. Такія цудоўныя, чыстыя дзіцячыя галасы! Уразіў высокі ўзровень выканання і тое, што дзеці ведаюць на памяць шмат розных твораў не толькі на рускай, беларускай, але і англійскай, італьянскай, лацінскай, нямецкай мовах. У гэтым я бачу і вялікую заслугу іх настаўнікаў, кіраўніка хору.

Яшчэ патэр Вернэр паабяцаў пасадзейнічаць наладжванню культурных сувязей з Аўстрыяй.

А пакуль што канцэртны хор "Раніца" ўзяў удзел у дабрачыннай Каляднай акцыі, праведзенай сумесна з "Чырвонным Крыжам", патэрам Вернэрам, патэрам Шмітбергерам для ветэранаў, пажылых людзей, выдатных работнікаў прамысловасці, урачоў, настаўнікаў. Хор выканаў пяць твораў розных жанраў.

Мяне таксама вельмі ўразілі юныя спевакі-"паліглоты", і я не ўтрымалася, каб не запытацца, як гэта ім удаецца. Патлумачыла дзесяцікласніца Таццяна Мацюхова:

— Напачатку, асабліва калі былі малодшымі, складанасцей хапала. Але дапамагала, па-першае, тое, што ў школе вывучаем замежную мову. Па-другое, наш кіраўнік запрашала настаўнікаў, перакладчыкаў, каб тыя паслухалі нас і, калі трэба, выправілі моўныя хібы.

Пазней мы так захапіліся, што вучылі свае партыі нават на перапынках паміж урокамі, а то і на саміх уроках.

— А ці не перашкаджае музыка асноўным школьным заняткам?

— Раней часу катастрафічна не хапала, — кажа сяброўка Таццяны, Аляксандра Сацэвіч. — Цяжка было, не ўсё атрымлівалася, увесь дзень загружаны, нават узнікала жаданне кінуць усё. Але зараз так "прыраслі" да хору, што не ўяўляем сябе без яго. Ужо і часу, здаецца, хапае. Вельмі ўдзячныя за ўсё нашаму кіраўніку Святлане Сцяпанаўне.

Я размаўляла і з іншымі педагогамі (дарэчы, прыемна, што шмат настаўнікаў, у тым ліку і музыкі, — выпускнікі гэтай навучальнай установы), якія вядуць у музычных класах звычайныя ўрокі мовы, матэматыкі, фізікі, хіміі... Яны адзначаюць, што "музыкальныя" дзеці вельмі эмацыянальныя, раскаваныя, арганізаваныя, з высокім інтэлектуальным узроўнем. Ну а гэта і ёсць той плён, да якога імкнуцца ў школе № 145.

**Святлана КАРПУЧОК.**


*У час гастрольнага выступлення хору "Раніца".*

## КАЛЯДЫ-2000


*Святкаванне ў Мінску.*

Нарэшце скончыўся доўгі пост, і на нашу зямлю прыйшло цудоўнае свята — Каляды. На працягу двух тыдняў нельга выконваць сур'ёзнай работы. асабліва забараняецца працаваць у калядныя вечары — нездарма яны завуцца святымі. Таму галоўны "абавязак" — быць у добрым настроі і ад душы павесяліцца. А для гэтага дастаткова выйсці на вуліцы роднага горада ці вёскі: паўсюль ладзяць спевы і танцы. Здараецца, калядоўшчыкі водзяць "казу" і "мядзведзя", усе з'яўляюцца не толькі гледачамі, але і ўдзельнікамі гэтай святочнай феерыі.


*Ансамбль "Тутэйшая шляхта".*

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### БЛІНЫ З БУЛЬБЫ

**На 1 кілаграм бульбы — 1 літр малака, 200 грамаў бульбяной мукі, 4 яйкі, 25 грамаў сала, соль.**

Бульбу зварыць, пачысціць, гарачай працерці праз сіта. Затым развесці цёплым малаком, пакласці жаўткі, добра ўзбіць, пасаліць, усыпаць бульбяную муку, зноў узбіць, дабавіць узбітыя бялкі і асцярожна перамяшаць (цеста павінна быць трохі гусцейшае, чым мучное цеста для тонкіх блінчыкаў на малацэ).

Для выпечкі бліноў скавародку добра нагрэць, змазаць шматком сала. Наліўшы цеста на скавараду, хутка нахіліць яе ў розныя бакі так, каб цеста разлілося роўным слоем.

Знятыя са скаварады бліны спачатку кладуць асобна, пакуль яны крышку астынуць, пасля чаго складваюць кастром. Такія бліны падаюць са смятанаю, рубленым селядцом, маслам, падсмажанай вэнджанай грудзінкай, салам, падсмажаным да румянага колеру.

### ГАЛУБЦЫ З ТВАРАГОМ І РЫСАМ

**На 0,5 кілаграма свежых капусных лістоў — 2 пучкі зялёнай цыбулі, 1 шклянка рысу, 1/2 шклянкі алею, 150 грамаў тварагу, 2 яйкі, молаты чырвоны і чорны перац, кроп, мята, соль, горкі перац.**

Цыбулю дробна парэзаць, пасіраваць на алеі, дабавіць рыс і смажыць яшчэ 5 хвілін. Пасаліць, папярчыць, дабавіць рубленае зяленіва, 1—2 стручкі горкага перцу. Тварог расцерці з яйкамі, дабавіць да астуджанага рысу, добра перамяшаць.

Начыніць лісты гэтым фаршам, пакласці ў каструлю, дабавіць каля шклянкі капуснага адвару і тушыць да гатоўнасці. Можна ў канцы дабавіць смятану.

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК.
Адказны сакратар Таццяна КУВАРЫНА.
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.
Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК.
Аглядальнікі Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.
Спецыяльныя карэспандэнты Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.
Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК.
Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА.
Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 108.
Падпісана да друку 17.1.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).